

# ЛЕНІН

Верш В. САСЮРЫ

Калі кат цараваў, і раслі кожны дзень
Па краіне турма за турмою,
Ленін голас падняў за галодных
людзей
І паклікаў рабочых да бою.

Яго голас, як горн, па заводах лунаў
І па вёсках, у полі зялёным.
Усіх смелых і лепшых той голас яднаў
У рады большэвіцкіх калонаў.

Ён з мільёнамі йшоў, дзе Комуны
агонь
Разгарауся шырокім паўстаннем.
Ні на шаг не спынілі ніколі яго
Перашкоды ў вялікім змаганні.
Ён павёў нас на бой, наш таварыш
і брат,
Вёў на ворагаў смела ўсё далей.

І ў цяжкой барацьбе, у агнях барыкад
Мы цара і буржуяў прагналі.

І спяваем мільёнамі мы галасоў—
Прамінула ліхая нядоля,
Бо не будзе цяпер ні паноў, ні рабоў
На совецкай зямлі ўжо ніколі.

Хто-ж нас вёў на паноў скрозь агонь
і скрозь дым
І яднаў ля чырвоных штандараў?
Гэта друг і таварыш, Ільіч—правадыр
Усясветнай сям'і пролетараў.

За жыццё маладое, за новы наш свет
Смерці ён падстаўляў свае грудзі.
Ён памёр, але ў нашых ён сэрцах жыве—
Мы ніколі яго не забудзем.

Пераклад з украінскай А. Я.



І. В. СТАЛІН—самы бліжэйшы саратнік і вучань Леніна. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна працоўныя нашай краіны перамаглі капіталістаў і памешчыкаў у кастрычніку 1917 г. Зараз пад мудрым кіраўніцтвам тав. Сталіна мы з поспехам будуем новае лепшае жыццё.




Па апавяданню Олейнікава
Малюнкі А. Волкава

## Пара браць уладу

У маленькім пакоі сядзела некалькі чалавек.

Сакратар паседжання запісаў у пратакол:— Бягучы момант. Слова атрымлівае...

Ён напісаў нейкае прозвішча, але потым адразу старанна закасаваў яго.

— Так, лепей без прозвішча,—сказаў яго сусед, што глядзеў у пратакол.

А дакладчык, прозвішча якога закасавалі, хутка ўстаў з крэсла.

Гэта быў Ленін.

Цэлыя 4 месяцы хаваўся ён ад буржуазнага часовага ўрада. Пасля няўдачнага паўстання рабочых у ліпені 1917 года буржуазія пачала шукаць Леніна, каб забіць яго. Але рабочыя дапамаглі Леніну схавацца, і ён выехаў з Петраграда (цяперашні Ленінград).

Газеты пісалі, што Ленін уцёк ні то на падводнай лодцы, ні то на самалёце. А Ленін жыў у гэты час на сенажаці, у шалашы, каля Сестрарэцка.

Леніну прысылалі ўсе газеты, яму пісалі пісьмы. Таму ён добра ведаў, што тварылася ў Петраградзе і ва ўсёй краіне.

Час падыходзіў к Окцябру. Амаль усе рабочыя і салдаты стаялі ўжо за большэвікоў.

Ленін рашыў: пара браць уладу.

Ён напісаў ужо некалькі пісем сваім таварышам па партыі. „Трэба разагнаць часовы ўрад,—пісаў ён.—Марудзіць — злачынства. Пара захапіць уладу“.

Ленін думаў, што піцерскія большэвікі вельмі павольна рыхтуюцца да рэволюцыі.

І тады ён нечакана з'явіўся сам у Петраградзе. Цэнтральны камітэт партыі большэвікоў сабраўся на чале з Леніным.

Паседжанне было сакрэтным.

Вось чаму сакратар так старанна закасаваў прозвішча Леніна ў пратаколе. Пратакол мог трапіць у рукі часовага ўрада, і тады яму было-б вядома, што Ленін у Петраградзе.

## Арыштаваць!

Позна ўночы ў Зімнім палацы сабраліся ўсе міністры.

— Сёнешняе паседжанне павінна быць сакрэтным,— сказаў Керэнскі*). Мы абмяркуем як змагацца з большэвікамі. Добра было-б знайсці і арыштаваць самога Леніна,— кажуць, ён хаваецца ў Петраградзе.

Ужо ўзышло сонца, а паседжанне ўсё працягвалася. Міністры прымалі пастанову за пастановай. Сакратар не паспяваў запісваць:

„Падрыхтаваць юнкераў да баявой гатоўнасці.

Загадаць крэйсеру „Аврора“ выйсці ў мора.

Закрыць большэвіцкія газеты.

Загадаць салдатам не выходзіць з казармаў.

Выклікаць з фронта войска для ўсмірэння.

Развесці ўсе масты праз Няву“.

Гэта было 24 Кастрычніка 1917 г.

*) Керэнскі—правадыр часовага буржуазнага ўрада.

## Першыя весткі

Трывожны гудок зазвінеў у Зімнім.

— Можна да тэлефона каго-небудзь з часовага ўрада?

Усхваляваны голас гудзеў у тэлефоне перадаючы навіны.

Вось аб чым даведаліся міністры:

Крэйсер „Аврора" адмовіўся выканаць загад урада. Ён не вышаў у мора, а знаходзіцца на Няве.

Матросы арыштавалі камандзіра крэйсера і цяпер чакаюць распараджэння ад ваенна-рэволюцыйнага камітэта.

Войска, выкліканае ўрадам з фронта для ўсмірэння большэвікоў, адмовілася выступіць і засталося на месцы.

Выкліканы з фронта 5-ты самакатны батальён перайшоў да большэвікоў.

Пецергофскія юнкеры адмовіліся абараняць часовы ўрад.



Матросы арыштавалі камандзіра крэйсера.

## — Выступіць!

Члены ваенна-рэволюцыйнага камітэта раіліся ў гэты часы як узяць Зімні палац і захапіць буржуазны ўрад.

Чатыры чалавекі стаялі ў Смольным перад вялікай картай Петраграда. Вось Зімні палац. Насупроць яго, на другім беразе Нявы,—Петрапаўлаўская крэпасць.

— Трэба абкружыць палац з усіх бакоў,— сказаў высокі худы чалавек.—Войска разам пойдзе з трох бакоў. А калі ўрад не здасца, мы пачнем агонь з „Авроры" і з Петрапаўлаўскай крэпасці. Наступленне пачнуць самыя лепшыя нашы часці. Сігнал падасць гармата з крэпасці.

Раіліся не доўга.

Чатыры камісары паціснулі адзін другому рукі і вышлі з Смольнага. На дварэ было холадна і цёмна.

Каля Смольнага стаялі дзесяткі рабочых з вінтоўкамі ў руках.

Усе яны гатовы былі ў любы момант выступіць, куды загадаюць.

Неўзабаве камісары паселі ў аўтамабілі. Ім трэба хутчэй спяшацца да сваіх часцей — аддаць апошнія загады.

Чырвонагвардзейцы расступаюцца, даюць дарогу.

Яны адчуваюць, што з гэтай хвіліны справа пачалася.

Горад не спаў.

Усюды з заводскіх варот выходзілі атрады рабочых-чырвонагвардзейцаў. Усе яны атрымалі ад ваенна-рэволюцыйнага камітэта загад:

— Выступіць!

## Рэволюцыя адбылася

На паседжанні Петраградскага совета рабочыя і салдаты пачулі:

— Тут знаходзіцца Ленін.

Пад крыкі і воплескі на трыбуну вышаў Ленін.

Вось што сказаў Ленін:

— Таварышы, рабочая і сялянская рэволюцыя, пра якую ўвесь час гаварылі большэвікі, адбылася.

Якое значэнне мае гэта рэволюцыя?

Па-першае, у нас будзе ўлада, якую ствараць самі працоўныя. Стары дзяржаўны апарат будзе разбіт ушчэнт. Цяпер краінай будуць кіраваць Советы.

Гэта рэволюцыя прывядзе нас да перамогі соцыялізма.

Зараз перш за ўсе нам трэба кончыць вайну.

Мы прапануем рабочым усіх ваюючых краін справядлівы мір.

У Расіі большасць сялян сказала: „Даволі гульні з капіталістамі, мы пойдзем з рабочымі“. Сяляне цяпер яшчэ больш пачнуць давяраць рабочым, бо мы адбярэм у памешчыкаў зямлю і аддадзім яе сялянам.

Галоўны ратунак цяпер—гэта саюз рабочых з сялянамі. А працаваць у саюзе рабочыя і сяляне пачалі ўжо. Пра гэта гаворыць толькі што адбыўшаяся рэволюцыя.

Мы пераможам усё і давядзем пролетарыят да сусветнай рэволюцыі.



# ПАРТЫЗАНСКАЯ

*(ПЕСНЯ)*

Па далінах, па узгор'ях
Ў бой дывізія ішла,
Каб з налёту ўзяць Прымор'е,
Белых выкурыць да тла.

Палымнеў наш сцяг чырвоны,
Нібы кроў ад свежых ран.
Наступалі эскадроны
Прыамурскіх партызан.

Не памрэ ніколі слава,
Не забудуцца гады,
Як чырвоныя атрады
Бралі з боем гарады.

Будуць помніцца, як казка,
Як маячныя агні,
Штурмавыя ночы Спаска,
Валачаеўскія дні.

Разграмілі атаманаў,
Разагналі ваявод
І на Тіхім акіяне
Свой закончылі паход.

Пераклад А. Зіміонкі.



# Блокнот

Верш С. Шушкевіча
Малюнкі Е. Саматы

Пазбірала Зося мігам
Сшыткі розныя і кнігі
Ды забылася адно,
Гэта—шэранькі блокнот.
А у шэранькім блокноце
Намалёваны быў коцік,
Беленькі ды ў крапачках,
На маленькіх лапачках.
Носік чысьценькі,
Хвост пушысценькі

* * *

Зося ў школе. Толькі Ваця
Заставаўся дома ў хаце.
Вось угледзіў ён блокнот.
„Кіска, кіска, кіска, кот!“
Ваця выкапаў вугольчык
І кату паправіў вочы,
А пасля паправіў вушкі,
Вышлі вушкі, як падушкі.
Далей—страшна аж глядзець!
Вышаў з коціка мядзведзь.
Потым ён падраў лісток
І закінуў у куток.
Вось які мастак быў Вацік,
Зосьчын брацік!






Апавяданне М. Багуна
Малюнкі В. Тіхановіча

## Адзіны выхад

У тую восень аўтодарожны атрад працаваў за 60 кілометраў ад Асіпавіч. Стаялі ясныя сонечныя дні. Бензіну хапала. Усе машыны штодня выходзілі на работу.

Начальнік спадзяваўся хутка закончыць пабудову шасейнай дарогі. Але...

Аднаго разу ўвечары начальнік паклікаў да сябе механіка.

— Макей, — сказаў ён, хмурачы густыя сівыя бровы.—Бяда, Макей... Я сёння аглядаў пакрышкі на колах: нікуды не вартыя—знасіліся... Праз два-тры дні машыны стануць...

— Ведаю, — адказаў механік Макей.— Дрэнная справа—пахне прастоем.

Начальнік пільна паглядзеў Макею ў вочы.

— Прастою дапусціць нельга. Восень. Пойдуць дажджы. Дарогу не скончым... А ты ведаеш, якое значэнне мае наша дарога?

Макей матнуў лысай галавой.

— Ведаю. Гэтага дапусціць нельга. Што будзем рабіць?

— А вось што. Адзіны выхад—бяры машыну і гані ў Менск. Без пакрышак не вяртайся. І май на ўвазе: заўтра ўночы ты павінен быць у атрадзе. Зразумеў?

— Зразумеў, таварыш начальнік.

— Жэньку з сабой вазьмі! Пакуль будзеш хадзіць па складах ды па базах—машыну дагледзіць, і дапаможа што,—параіў начальнік.

## Здарэнне ў дарозе

Пад вечар другога дня Макей, Жэнька і, як звычайна, сабака - аўчарка вярталіся з Менска.

Макей быў у добрым, вясёлым настроі: ён дастаў 30 пар пакрышак. Можна было лічыць, што атрад надоўга забяспечан пакрышкамі.

Дарогу ад Менска да Пухавіч праехалі яшчэ повідну.

— Гадзін у 12—дома, — задаволена ўсміхаючыся, гаварыў Макей. — Загад выканаем — дарога, бачыш, якая, што той стол...

Бяручы пад'ём, Макей даў вялікі газ. Машына пайшла са скорасцю 60 кілометраў у гадзіну. Віхром вылецеўшы на гару, Макей убачыў, што наперадзе, насустрач, ідуць падводы.

Макей націснуў нажны тормаз. Машына прыцішыла ход і паціху падыходзіла да падвод.

Коні пачалі стрыгчы вушамі, пераступаць з нагі на нагу.

— Баяцца, — заклапочана заўважыў Макей.—Трэба заглушыць матор.

Машына стала. Шэсць падвод спакойна прайшлі каля аўтамабіля. Сёмая замарудзіла.

Сыты завадскі жарабок, вылупіўшы круглыя ад страху вочы, хроп, танцаваў—баяўся прайсці каля мышыны.

У калёсах сядзела двое дзяцей. Маладая жанчына—маці,—ледзь утрымлівала ў руках туга напятыя лейцы.

— Пасядзі, — сказаў Макей Жэньку.— Я выйду—памагу правесці каня.

Макей вылез з кабінкі, узяў жарабка за аброць і павёў па дарозе.

Жарабок нясмела ішоў за Макеем. А калі параўняўся з машынай, пачаў таптацца на месцы, асядаць усім грузным целам назад, на калёсы. Раптам ён скочыў наперад.



Жарабок раптам скочыў наперад.

Жэнька ўбачыў толькі, як калёсы, куляючыся з боку на бок, затанцавалі па канаве, пачуў, як дзіка закрычала жанчына, загаласілі дзеці. Трывожным звонкім брэхам залілася аўчарка.

Калі Жэнька вышаў з кабінкі, дык убачыў: Макей нерухома ляжаў на пыльнай дарозе. На высокім абветраным ілбе хутка набракаў крывёю шырокі сіні рубец. Кроў выступала на пальцах правай рукі, адкінутай ад тулава. Пыльны след кутых колаў пралягаў па чорным, бліскучым ад масла камбінезоне. Кола прайшло праз грудзі Макея.

Жэнька моцна заплакаў.

Ад падвод, якія спыніліся за некалькі дзесяткаў метраў ад машыны, прыбеглі людзі. Малады, з вострым вераб'іным носам хлапец — настаўнік — паслухаў пульс, а потым і сэрца Макея.

— Жывы,—праз мінуту сказаў ён.

Людзі уздыхнулі лягчэй. Скончыўшы агляд Макея, настаўнік сказаў:

— Пералом правай рукі, разбіта галава, здаецца пераломаны рэбры—колам пераехала. Патрэбна зараз-жа ў больніцу. У Блонь да нас. Тры кілометры.

Калі Макея ўскладалі на калёсы, ён ціха застагнаў і, не расплюшчваючы вачэй, прашаптаў.

— Жэнька... Сынок...

З Жэнькавых вачэй пасыпаліся буйныя, як град, слёзы.

— Сынок...— шаптаў Макей. — Не пашанцавала... Папрасі даць тэлеграму ў атрад... Сам сядзі ў машыне... пакуль прыедуць...

Макей зноў страціў прытомнасць.

## Жэнька-машыніст

Другую гадзіну Жэнька сядзеў у кабінцы машыны, нявесела паглядаючы на дарогу.

Многа дум перадумаў за гэты час Жэнька і ўсе яны сыходзіліся на адным. Макея няма, уночы пакрышкі



не будуць дастаўлены ў атрад—заўтра больш шасць машын будзе стаяць... Пакуль яшчэ тая тэлеграма дойдзе ды і ці перашле яе настаўнік... Не. Трэба даставіць у атрад пакрышкі. А як даставіць, калі да атрада больш за сто кіламетраў?

Жэнька ўжо мо' соты раз успамінаў тэхнічны гурток, дзе ён вывучаў матор, успамінаў, як яму даводзілася, калі-ні-калі, пад наглядам шофера, правесці машыну пару кілометраў па лініі...

Пад канец трэцяй гадзіны сядзення ў кабінцы Жэнька вырашыў:

— Паеду!

Ён вышаў з кабінкі. Абцёршы заплаканыя вочы, ён праверыў масла і бензін. Масла ў рэзервуары было даволі. Бензінамер паказваў палавіну бака.

Жэнькава сэрца моцна калацілася. У кузаве ласкава заенчыла аўчарка.

— Чаго ты, дурная? Ну чаго-ж ты!? Паедзем зараз...

Аўчарка, нібы разумеючы хлапца, заглядала яму ў вочы і ціха скуголіла.

Жэнька ўвайшоў у кабінку і захлопнуў за сабою дзверцы. Сеў за руль. Правая нага ўпэўнена намацала стартэр, левая — педаль конуса.

Жэнька на момант уключыў святло, разгледзіў дарогу і выключыў ліхтары. Пад нагой працяжна завыў стартэр. Праз хвіліну мякка і размерана загаварыў матор.

Жэнька ўключыў святло, даў скорасць—машына, калоцячыся, рушыла наперад. Жэнька убачыў на дарозе камень і крутнуў руль направа. Машына павярнулася. Потым крутнуў руль улева. Машына рэзка павярнула ў левы бок пад канаву. Зноў паварот руля ўправа. Жэнька аўладаў сабой, выраўнаваў машыну на дарозе і павольна, зменшыўшы газ, уключыў чацвертую скорасць. Раўней застукаў матор. Ярчэй загарэліся ліхтары. І машына плаўна пайшла па шырокай гладкай дарозе.

* * *

Начальнік нацягваў на нагу другі бот, калі ў дзверы нясмела пастукалі.

— Уваходзце!—крыкнуў начальнік.

У дзвярах стаяў белы ад хвалявання і цяжкой бяссоннай ночы Жэнька.

— Ты... ты як тут? А Макей дзе? Я-ж толькі што атрымаў тэлеграму ад Макея з больніцы...

Жэнька падышоў бліжэй да ложка, на якім сядзеў начальнік.

— Таварыш начальнік... —голас яго дрыжаў, перарываўся. За кожным словам Жэнька павінен быў рабіць доўгія паўзы — адпачываў.—Таварыш начальнік... Машына з грузам... прывезена ў гараж... Усё ў парадку... Макей...—на гэтых словах Жэнька захістаўся—і дужыя рукі начальніка атрада ледзь паспелі падхапіць яго.

**(Урывак з кніжкі „Жэнька“, якая хутка выйдзе з друку).**



# Містэр Твістэр

Верш С. Маршака
Малюнкі В. Лебедзева

1.

Есць за граніцай
Кантора Кука.
Калі вас часамі
Агорне дакука,
Захочацца ўбачыць
Людзей і свет—
Востраў Таці,
Парыж і Тібет,—

Кук для вас
За адну мінуту
На караблі
Падрыхтуе каюту.
Ці самалёт
Загадае падаць,
Альбо вярблюда
За вамі прысладь.

Дасць вам пакой ён
У лепшым гатэлі,
Ванну і нават
Сняданне ў пасцелі.

Горы і нетры,
Піхты, бамбук,
Пальмы і кедры
Пакажа вам Кук.

2.

Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Дзялок і банкір,
Уласнік заводаў,
Газет, параходаў,
Задумаў аб'ехаць свет
Уздоўж і ўшыр,
Узяўшы з сабою
І жонку з дачкою.

Жонка і дочка
Згоду далі
Зрабіць пагулянку
Навокал зямлі.



3.

Зранку ў Кука
Трашчыць апарат:
—Чатыры каюты
Н'ю-Йорк—Ленінград.
З ваннай, гасцінай,
Фантанам і садам.
Толькі глядзіце,
Каб блізка і радам
Там не было—
Неграў, кітайцаў
І іншага зброду.
Містэр не любіць
Такога народу.

Кук адказаў яму:
—Ёсць! За мінуту
Вам падрыхтую
Каюту.

4.

Роўна за дзесяць
Мінут да адходу
Твістэр з'явіўся
На борт парахода.

Побач—
Ідзе ў акулярах
Старая.
Побач—
Паненка
З мартышкай шагае.

Следам чатыры
Ідуць веліканы,
Дваццаць чатыры
Нясуць чамаданы.

5.

Плыве параход
Цераз мора ўвесь час,
З Амерыкі дальняй
Плыве ён да нас.

Плыве на Усход ён
Дарогай прамою,
Журчыць акіян
За шырокай кармою.





Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Банкір і багач,
Уласнік заводаў,
Газет, параходаў,
На акіяне
Гуляе ў мяч.
Няма каляровага
Побач народу—
Неграў, кітайцаў
І іншага зброду.
Неграў, кітайцаў
І іншы народ
Качае у моры
Другі параход.

Баліць галава там
Ад дыму і чаду,—
Няма ні фантана,
Ні ванны, ні саду.

6.

Містэр Твістэр,
Міліонер,
Едзе турыстам
У СССР.

Блізіцца шум
Ленінградскага порта,
Горад узняўся
З-за правага борта.
Мутныя воды,
Многа калон,
Дымам заводы
Капцяць гарызонт.

І капялюш свой
Націснуўшы, містэр
Хутка па трапу
Збягае на прыстань.
Дзівіцца
На Петрапаўлаўскі
Шпіль,
Потым садзіцца
Ў аўтамабіль.

Дамы паселі,
Кабіна закрыта,
Аўтамабіль
Агрызнуўся сярдзіта

І па асфальце
Стралой паляцеў,
Дымам заслаўшы
Прахожых людзей.

7.

Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Міліонер,
Уласнік заводаў,
Газет, параходаў,
Зайшоў у гасцініцу
„Англетэр“.

Пыхкае ён
Залатою цыгарай
І па-англійску
Гаворыць швейцару:
—Ёсць у гатэлі
У вас нумары?
Дзён на чатыры
А мо' і на тры?

— Ёсць,—адказаў яму
Дзядзька вусаты,—
Нумар дзевяты
І нумар дзесяты.

8.

Міма люстэрак
Дарожкай прамою
Шагам павольным
Ідуць у пакоі —
Рослы швейцар
У пальто з галунамі,
Следам—прыезджы
Ў шырокай панаме.
Следам—
Ідзе ў акулярах
Старая,
Следам—
Паненка
З мартышкай шагае.

Раптам турысты
Разявілі рот,
Містэра Твістэра
Кінула ў пот.

Зверху аж з нумара
Сто дзевяноста
Ішоў чорнаскуры
Высокага роста.

Чорнай рукой
Дакранаўся пярыл,
Ішоў ён спакойна
І люльку курыў.
За ім—дзе ні глянь—
У люстэрках шырокіх
Шагала з дзесятак
Неграў высокіх.

Кожны рукой
Дакранаўся перыл,
Кожны кароткую
Люльку курыў.
Містэр не мог
Утрымацца ад гневу,
Глядзіць ён направа,
Глядзіць і налева.
— Негры ў гасцініцы!
Вось дык дзівота!
Не, мы не спынемся
Тут нізавошта.

Высока уверх
Падкідаючы ногі,
Мчыцца прыезджы
Назад да парога,





Следам—
Бяжыць ў акулярах
Старая,
Следам—
Паненка іх даганяе.

Хутка і моўчкі
Садзяцца ў машыну,
Штурхаюць моцна
Шофера ў спіну.

Строгі швейцар
Аддае ім паклон,
Потым хапаецца
За тэлефон.

—Два сорак два
Сорак восем,
„Асторыя“!
Паклічце да трубкі
Швейцара Грыгор‘ева.
Слухай, Грыгор‘еў,
Напэўна да вас
На аўтамабілі
Прыедуць ад нас
Трое турыстаў
Па імені Твістэр—
Гэта адчайныя
Скандалісты.
Ты ім скажы,
Што няма нумароў...
Ну, зразумеў, брат?
Бывай-жа здароў!

—Дваццаць адзін
Восемнаццаць,
„Гаванна“!
Паклічце да трубкі
Швейцара Івана.
Слухай, Іванка,
Напэўна ад нас
На аўтамабілі
Прыедуць да вас
Трое турыстаў
Па імені Твістэр,
Гэта адчайныя
Скандалісты.
Ты ім скажы,
Што няма нумароў...
Чуеш, Іванка?
Бывай-жа здароў!

—Пяць трыццаць пяць
Трыццаць дзевяць,
„Італія“!
Паклічце да трубкі
Швейцара Віталія.
Здароў, брат, Віталій!
Напэўна... й так далей.

9.

Пыл закурэўся
З-пад гумавых шынаў,
Мчыцца па вуліцы
Аўтомашына.

Вуліца Гогаля,
Трэці пад‘езд.
—Няма,—адказалі
Ў гасцініцы месц.



Вуліца Песцеля,
Першы пад‘езд,
— Няма,—адказалі
Ў гасцініцы месц.

Плошча Паўстання,
Пяты пад‘езд.
— Няма,—адказалі
У гасцініцы месц.

Правая задняя
Лопнула шына,
Скора матору
Не хопіць бензіну.

10.

Містэр Твістэр,
Былшы міністр,
Містэр Твістэр
Міліонер,
Уласнік заводаў,
Газет, параходаў,
Вярнуўся ў гасцініцу
„Англетэр“.

Следам за ім
Ў акулярах старая,
Следам—
Паненка
З мартышкай шагае.

Яны пазванілі,
Пастукалі ў дзверы.
І вось засвяціўся
Пад‘езд „Англетэра“.
Спакойна адсунуўшы
Ў дзверах засовы,
Выходзіць насустрач
Служака суровы.

—Позна,—адмовіў
Швейцар ім вусаты:—
Заняты дзевяты,
Заняты і дзесяты.
Прыгнечаных з‘езд
Распачаўся ў чацвер.
Заняты ўсе нумары
Ў „Англетэр“.

— Што мне рабіць?
Не магу я чакаць...—
Містэру Твістэру
Шэпча дачка.—
Як месца не знойдзем
Нідзе тут кругом,
Можа ты купіш
Які-нібудзь дом?
— Купіш!—
Збянтэжаны
Бацька ўздыхае.
—Ты не ў Чыкаго,
Мая дарагая.



11.

Матку і дочку
Схапіў-бы удар,
Ды іх супакоіў
Вусаты швейцар.
Швейцар ім параіў
Начлег пролетарскі,
Швейцар палажыў іх
На ложку швейцарскім.

А містэр тут радам
Усеўся на стуле,
І хутка усе яны
Моцна заснулі.

Змарыўшыся после
Вялікай дарогі,
Заснуў ля парога
Совецкай гасцініцы
„Англетэр"
Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Міліонер.

12.

Спіць—і ў сне
Усміхаецца ён.
Дзіўны прысніўся
Містэру сон.
Сніцца яму,
Што брадзягай бяздомным
Ён па завулках
Цягаецца цёмных.

Раптам пачуў ён
Прапелера стук,—
З неба на землю
Спускаецца Кук.
З радасцю Твістэр
К яму падбягае
І як збавіцеля
Кука вітае.
Быстра садзіцца
У самалёт.
Крычыць на пілота:
—Поўны ход!

Вось перад імі
Відаць і Амерыка.
Мрамарны дом
Паказаўся ля скверыка.
Вышаў швейцар
І рукамі развёў.
— Няма у нас болей
Для вас нумароў...



І зачыніў за сабою
Ён дзверы.
Твістэр прачнуўся
Зноў у „Англетэры".

Прачнуўся ў трывозе
На самым парозе
Совецкай гасцініцы
„Англетэр"
Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Міліонер.

13.

Зранку са шчоткай
З'явіўся хлапчына,
Весела ўзяўся
За чыстку бацінак—
Жоўтых, чырвоных,
Шырокіх і вузкіх,
Швецкіх, совецкіх,
Нямецкіх, французкіх.

Толькі ён скончыў
Апошнія чысціць,
Бачыць: са стула
Ўстае нейкі містэр.
Глядзіць ён кругом,
Дастае партсігар.
Раптам з канторы
Выходзіць швейцар.

— Ёсць,—заявіў ён,—
Пакоі два радам,
З ваннай, гасцінай,
Фантанам і садам.
Хочаце, містэр,
Я вам пакажу.
Толькі пры гэтым
Зараней скажу:
Нумар направа
Знімае кітаец,
Нумар налева
Знімае малаец,
Нумар пад вамі
Знімае індус,
Нумар над вамі
Знімае зулус!

Міліонер
Усміхнуўся спрасонку,
Клікнуў ён дочку
З мартышкай
І жонку.
Ды закрычаў
Па-англійску
— Окэй!
Дайце ключы
Ад пакояў хутчэй!

Узяўшы пад паху
Мартышку з дачкою,
Мчыцца стралою
Па „Англетэр"
Містэр Твістэр,
Быўшы міністр,
Містэр Твістэр,
Міліонер.

*Пераклад*
*А. ЯКІМОВІЧА.*






# СУБОТНІК

Апавяданне Х. Малцінскага
Малюнкі Л. Эйдэльмана

I

У Лэйзаркі бліщчаць рукавы і зверху і знізу. Зверху яны зашмальцаваны, а знізу таксама. Тое, што зверху—ясна ўсім, бо ён не мае хустачкі. Тое, што знізу — таксама ясна, бо ён за абедам заўсёды кладзе свае рукавы на залітыя баршчом мясціны. Дык ужо ясна—чаму?

Лэйзарка ніколі не знімае шапкі. Двума пальцамі—вялікім і ўказальным — ён трымаецца за брыль, а астатнімі чэша сваю кудлатую чупрыну.

Усе дзеці смяюцца з яго, жартуюць. Хлопцы нават б'юць яго—так сабе, за нішто.

А Лэйзарка і не дбае, што яго б'юць. Стаіць сабе і смяецца. Бывае, праўда, што Лэйзарка не вытрымае — узлуецца. Але-ж гэта рэдка бывае.

Санітарная камісія ўжо не раз выклікала ў школу Лэйзаркавых бацькоў. Але яны чамусці не прыходзяць. Тады пастанавілі паслаць да іх на кватэру брыгаду. Нельга-ж так! Ніхто не хоча з Лэйзаркам сядзець на адной парце і гуляць.

II

Бацька Лэйзаркі адсталы рабочы. Ён нядаўна аставаўся працаваць на абутковай фабрыцы. Да таго часу працаваў дома саматужнікам. Матка Лэйзаркі раней гандлявала іголкамі. Цяпер працуе на галянтарэйнай фабрыцы.

Лэйзаркаў бацька надта злосны. Калі санітарная камісія прышла да іх на кватэру, дык ён нават не пасароміўся выгнаць рэбят.

— Этка, — крыкнуў ён да жонкі, — вось гэтыя жэўжыкі прышлі да мяне на кватэру і хочуць камандаваць мной, Этка! Калі яны яшчэ раз асмеляцца зайсці, дык вось гэтым капылом запушчу, бачыш?!

Лэйзарку стала крыўдна. Ён—заўсёды ціхі і спакойны — нават раскрычаўся на бацьку:

— Што ты іх гоніш?..

Бацька глянуў на яго так злосна, нібы ўкалоў.

III

Бруд і гразь у кватэры Лэйзаркі кінуліся ў вочы усім рэбятам. Цяпер стала ясна — чаму і Лэйзарка заўсёды брудны.

— Ой, цёця Двэйра, — стоячы ля парты, крычаў Янкель Шафір, — на падушцы там ляжаў кавалак хлеба і галава селядца!

— А падлога! — не вытрымала Хая і выбегла з-за парты, паказваючы на дошку, — яшчэ чарней!

— Яны ядуць усе з аднэй міскі,—дадала Рохка, пры гэтым скрывілася так, нібы набрала поўны рот рыцыны.

— Можа яны бедна жывуць?— спрабавала абараняць Ханка.

— Што ты,—усхапіўся Хаімка, Лэйзаркаў сусед. — Бацька яго атрымлівае больш за 150 у адну палучку, а матка таксама. Яны самі вінаваты.

— Вядро, што ў калідорчыку, бачылі вы?— ўставіў слова жвавы хлопчык Гомберг.

Янкель Шафір адразу сціснуў пальцамі свой нос.

— Цёця, Двэйра, ой вядро!

— Што вы хочаце ад мяне?—раптам раскрычаўся Лэйзарка.—Сам-жа я не магу зрабіць чыста.

— А чаму я сама змагла памыць падлогу,—крыкнула Рохка.

— А я мыю хустачку!—дадаў Янкель Шафір, шукаючы ў парце сваю хустачку.

— Ну, хопіць, хопіць,—супакойвала цёця Двэйра рэбят, стукаючы пальцам па стале.— Сціхніце.

А калі стала ціха, цёця Двэйра сказала:

— Няма чаго абараняцца, Лэйзарка. Не думай, што ты ў гэтым не вінават. Чаму ты ніколі не запрасіў бацьку ці матку на бацькоўскі сход? Аб чыстаце на сходах мы не раз гаварылі.

— Дык што мне рабіць?—скрывіўся Лэйзарка.

— Ты яшчэ нічога не зрабіў і ўжо крычыш, што не можаш,—адказала цёця Двэйра.—Расталкуй свайму бацьку і матцы як мае быць, што ніхто не хоча з табой вучыць лекцый і гуляць разам...

— Я ўжо аб гэтым ім гаварыў.

— Нічога ты ім не гаварыў,—заўважыла цёця Двэйра.—Ты паспрабуй што-небудзь зрабіць, а мы ўжо табе дапаможам.

— Цёця Двэйра, я-б яму дапамагла падлогу памыць, — перапыніла настаўніцу Рохка.

—Я-б таксама,—падхапіла Ханка.

— А я не? — дадаў Янкель Шафір.

— Мы наладзім там чыстату.

— Ой такі...

— Суботнік! — прапанаваў Хаімка.

— Суботнік, суботнік!—загаманілі астатнія рэбяты.

Лэйзарку гэта вельмі спадабалася, ды і ўсім дзецям таксама. Янкель Шафір ад радасці аж падскакваў.

Пасля заняткаў рэбяты акружылі Лэйзарку і пачалі ўмаўляцца.

— Я ўсё падрыхтую, я настаўлю вады, я магу прымус запаліць, — гарачыўся Лэйзарка.

— Дык ты кажаш—сёння бацькі на другой змене працуюць?

— Але, нікога не будзе, — запыхаўшыся, адказваў Лэйзарка.

Цяпер Лэйзарка лепш адчуваў сябе сярод сваіх таварышаў. Усе з ім гаварылі. Кожны падыходзіў да яго, раіўся, што і як зрабіць.

## IV

У кватэры Лэйзаркі закіпела работа. Упецярых шаравалі падлогу, пяцёра працавала каля вокан і павуціны, што вісела на сценах і ў куточках. Янкель Шафір і Гомберг старанна пакавалі ў мяшок старыя халявы і парваныя галошы. А Лэйзарка ўсё бегаў і даставаў патрэбныя прылады. Да Лэйзаркі крычалі з усіх бакоў.

— Лэйзарка, вады!

— Мятлу, Лэйзарка, мятлу!

— Яшчэ трохі пяску, скарэй!

— Рыдлёўку, рыдлёўку дай!

Прымус шумеў бесперапынку. Адзін чайнік знімалі, і тут-жа настаўлялі другі. Хая



У кватэры Лэйзаркі закіпела работа.

і Рохка выносілі праветрыць адзежу і пасцелі. Ханка сабрала ўсю брудную бялізну, што валялася пад ложкам, і ўкінула ў пустую скрынку.

Лэйзарка недзе знайшоў ключ ад шуфляды і дастаў адтуль дзве простыні, абрус, чысценькую насавую хустачку, новую рубашку для сябе, новую коўдру, — усё, усё, што матка схавала на пэйсах. Адзін раз у год прыбірае яго матка ў хаце — гэта на пэйсах. А рэбяты з Лэйзаркам парашылі, што чыстата павінна быць заўсёды і тут-жа заслалі чыстым абрусам толькі што вымыты стол. На падушкі адзелі чыстыя навалачкі і ложак заслалі новай коўдрай. Выгляд кватэры змяніўся. Кватэру не пазнаць. А на Лэйзарку красавалася новая рубашка.

Ужо стала цямнець. Рэбяты збіраліся дамоў.

— Ну, ты задаволен, Лэйзарка?—гаварылі да яго рэбяты перад адыходам.

Лэйзарка быў надта задаволены і не ведаў, як аддзякваць сваім таварышам.

V

Ужо 11 гадзін вечара. Але Лэйзарка не можа заснуць. Ён яшчэ і электрычнасці не выключыў. Хутка з работы вернуцца бацькі. Лэйзарка трохі баіцца бацькі. Бацька можа яго яшчэ набіць за ўсю гэту справу... А калі матка ўбачыць абрус і коўдру... Можа хіба, каб зняць ды зноў палажыць у шуфляду? Ён ужо хацеў саскочыць з ложка, але... на ступеньках пачуліся шагі. „Ідуць“—і ў Лэйзаркі адразу зашчымела сэрца. Ён хутка засунуў галаву пад коўдру і перастаў дыхаць.

Першая ў хату зайшла маці, але яна тут-жа з крыкам кінулася назад.

— Бэрка, гвалт! Нехта заняў нашу кватэру!

— Ты звяр'яцела ці што, — пачуўся за дзвярыма бацькаў голас, — што ты гаворыш?

— Ой бяда нас спаткала,—крычала маці,—занялі нашу кватэру...

Бацька ўбег у пакой і вочы яго замітусіліся ад чыстаты. Потым ён злосна з крыкам пачаў раскідаць сталы, табурэткі і падушкі.

— Марш адгэтуль! Хто гэта забраўся сюды? Марш, марш! Я рабочы!

— Ой, прапалі мы, ой прапалі,—войкала маці.

Лэйзарка душыўся ад смеху, потым, не вытрымаўшы, голы саскочыў з ложка.

— Тата, што ты робіш? Гэта-ж наш пакой!

Бацька і матка здзіўлена глядзелі на Лэйзарку.

— Што тут было, хто гэта, Лэйзарка? — мармытала матка.

— Гэта я разам з сваімі таварышамі наладзілі суботнік. У нас-жа было так брудна. А цяпер бачыце, як чыста стала. Усюды блішчыць.

Бацька глянуў на матку, і абое яны так засароміліся, што не змаглі зрабіць Лэйзарку якую-небудзь заўвагу.

Пераклад з яўрэйскай мовы
Л. МАЙЗЕЛЯ.



— Ой,—крычала маці,—занялі нашу кватэру...

# СІЛОСНАЯ ВЕЖА



## I.

Высокую сілосную вежу будавалі ў нашым калгасе. Глядзелі на яе калгаснікі і радаваліся.

— Слаўная будзе вежа! Назапасім на ўсю зіму сілосу для жывёлы.

Аднойчы пад вечар вежа была гатова. Прыбралі ўсе стружкі, трэскі і назаўтра рашылі пачаць сіласаванне.

Разышліся ўсе калгаснікі па хатах адпачываць.

Ціха навакол.

І раптам пачуўся трывожны крык. Павыскаквалі ўсе на вуліцу, кінуліся бегчы ў канец калгаса, дзе ў чорнае неба ўпіраўся вогненны слуп.

Агонь раптам ахапіў усю вежу.

Пакуль прыбеглі калгаснікі, пакуль прымчалася пажарная каманда, дык смаловыя дошкі дагарвалі зусім.

Вежа згарэла.

— Хто-б гэта мог падпаліць? — разважалі заклапочаныя калгаснікі.

## II.

Справу расследваў прыехаўшы з горада чалавек. Ён доўга капаўся ў астыўшых вуглях, потым пайшоў у пажарную пуню і там аглядваў пажарныя помпы.

Усе здзіўлена паглядалі на следаваццеля, а ён з пажарнае пуні пайшоў да калгасніка Пётры Дударова, што жыў надалёка ад вежы.

Пётра разоў дваццаць паўтарыў, як ён убачыў пажар і як першы падняў трывогу. З яго слоў відаць было, што вежа загарэлася адразу, як порах.

Нарэшце следавацель задаў Пётру пытанне:

— Скажыце, у каго тут ёсць сады?

— Вялікі сад ёсць толькі ў Лукашэвіча.

Следавацель разам з старшынёю пайшлі да Лукашэвіча. Той арфаваў свой хлеб і вельмі здзівіўся нечаканым гасцям.

— Скажыце, які вы ўжывалі апырскавацель для свайго сада—Вермерэля ці Платца?

— Не ведаю, не ведаю...—задрыжаў Лукашэвіч,—даўно купляў яго...

— Пакажыце.

Неахвотна павёў Лукашэвіч у свой свіран следаваццеля і старшыню калгаса.

Узяў следавацель апырскавацель, паглядзеў і сказаў:

— Так і ёсць, мае меркаванні апраўдаліся. Вазьміце гэты апырсквацель,—ска-





заў следавацель старшыні, а да Лукашэвіча звярнуўся з другімі словамі:—Прыдзецца і вам пайсці са мною.

Усе трое вышлі з двара.

* * *

Неўзабаве быў суд.

На судзе Лукашэвіч прызнаўся, што вежу падпаліў ён. А каб не маглі скора патушыць, дык ён абліў з апырскваецеля вежу газай.

Пролетарскі суд сурова пакараў шкодніка.

В. ІВАШЫН.

*Дзержынскі р-н.*

# ГАЗЕТА

Усе вы ведаеце, што такое газета. Многія з вас самі выпісваюць і чытаюць газеты. Але наўрад ці ведае з вас хто-небудзь, якою газета была раней.

Першая газета з'явілася вельмі даўно. Спачатку была так званая жывая газета. Па вуліцы ішоў глашаты — чалавек-гучнагаварыцель і трубіў у ражок.



Па вуліцы ішоў чалавек-гучнагаварыцель...

На плошчы глашаты спыняўся і выгукваў на розныя лады паведамленні і загады ўрада. Выслухаўшы ўсё, людзі разыходзіліся і разносілі навіны па гораду. Вось такою была некалі газета.

Першая газета, якую можна было чытаць, пачала выдавацца ў італьянскім горадзе Венецыі. Гэта было гадоў 400 таму назад. Венецыя была вялікім гандлёвым горадам. Туды з'язджаліся купцы з усяго свету.

Кожны прыезджы прывозіў з сабою якую-небудзь навіну: дзе адбываецца вайна, куды можна везці тавары, дзе можна нарабіць дабра, куды не варта везці тавары, дзе што здарылася.

Тады венецыянскія купцы арганізавалі асобную канцэлярыю, у якую плылі ўсе навіны. Вучоныя пісары перапісвалі гэтыя

навіны на асобныя лісткі. Лісткі разносіліся па кватэрах купцоў.

Гэткія лісткі не былі падобны на цяперашнія газеты. Хутчэй за ўсё яны былі падобны на пісьмы, толькі перапісаны акуратна, разборчыва.




Такі лісток прадавалі за дробную манету, якая называлася „Газетта“. Ад гэтага слова і атрымала сваю назву газета.

У Расіі першая рукапісная газета называлася „куранты“. Гэту газету чытаў толькі адзін чалавек — цар Аляксей Міхайлавіч. Больш за ўсё ў гэтай газеце было навін з-за граніцы.

Спецыяльна для цара выпісвалі ўсе замежныя газеты, якія тады выходзілі, а выходзіла іх штук 20. Але цар не ўмеў чытаць па-замежнаму. І дзякі перакладалі для яго самыя цікавыя навіны.

Гэтыя навіны адна за другой перапісваліся на пергамент (тонка-выраблены авечая скурка). Доўгі скрутак царскай газеты трымалі два дзякі і чыталі цару. Іншы раз чытанне аднае газеты цягнулася больш за месяц, бо газета была доўгая, а дзякі былі не вельмі граматныя, чыталі яе павольна і па складах.

Першая друкаваная руская газета вышла пры цары Пётры І. Гэта было 230 год таму назад. Газета мела доўгую і дзіўную назву: „Ведомости о военных и иных делах, достойных знания и памяти, случившихся в Московском государстве и иных окрестных странах“.

Гэтыя „Ведомости“ выходзілі ў Маскве. Спачатку яны выдаваліся не акуратна. Назбіраецца матар'ял, розныя навіны, загады ўрада — вось і выдадуць газету. Потым газета стала выходзіць раз на тыдзень.


Царская газета

Цяпер і ўявіць трудна, каб у такой вялікай краіне, як Расія, выдавалася толькі адна газета ды і то раз на тыдзень.

Прайшло 230 гадоў з таго часу і зараз толькі ў адной Совецкай Беларусі выходзіць 256 друкаваных газет і 8 часопісяй.

А. П.

ЦАНА 30 КАП.

Малюнкі Н. Малевіча
Вершы А. Зіміонкі

# ЛІСІЦА-ХІТРЫЦА



1. „Мама! Мама! Гэта ліс—
Гэта ён гусей загрыз...
Але зловім!"—кажа Ціт,
Усім вядомы следапыт.



2. „Перш за ўсё, як кажа дзед,
Дай прасочым лісаў след,
Будзем знаць, куды ісці,
Як нам шкодніка знайсці".



3. Па слядах ідзе атрад—
Ціт, Марыля ды Ігнат;
А наперадзе бульдог
Мчыць з усіх кароткіх ног.



4. Вось і лес. Рыхтуй шацёр.
Ліс не дурань—ён хіцёр:
Зразу звера не спаймаць—
Трэба будзе начаваць.



5. Зноў шагае наш атрад—
Ціт, Марыля ды Ігнат:
Свой капкан нясуць далей.
Хітры-ж ліс—сюды хутчэй...



6. „Дай спрабуем, як ён б'е—
Можа промахі дае?"—
Да Кандрата кажа Ціт,
Усім вядомы следапыт.



7. Ліс тым часам глянуў, сеў.
Дачыста усё паеў,
Кураня-ж забраў з сабой
І ў гушчар махнуў стралой.



8. Падышлі рэбяты—глядзь:
Толькі дно адно відаць...
„Ані крошкі... Што рабіць?
Што нам есці? Як тут быць?"



9. Раптам чуюць: ай-яй-ох!
У капкан папаў... бульдог!..
Зноў няўдача—проста страх!
(*У новым нумары—працяг*).

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ
ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА".
Заказ № 1265. 7710 экз. Менгарліт № 5676.
Друкарня імя Сталіна.